Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Сьнежань 1930

N 23-24

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 69.

Тэл. 17-09

Ударнікі т.т. Бабкін і Утолін, якія высунулі свой сустрэчны прамфінплян





# Новай дарогаю

Апавяданьне Міколы Нікановіча

* * *

Гэта было ў тысяча дзевяцьсот дваццаць... дваццаць... Ну, але зрэшты няважна ў якім годзе. Ня прыпомню цяпер. Памяць здрадзіла мне. Выбачце.

А ў мінулую весну я, па камандыроўцы БелАПП'а, паехаў па колгасах.

Вясна. У сакавітым блакіце палымнелі густыя далі. Я прагна піў, і вольныя прасторы і пякуча-жывіцельнае сонца, і пах тлустага чарназему з перагніўшымі лісьцямі.

Я проста маладзеў. А перада мною, перад самымі вачыма, узьбягалі з лагчыны на ўзгорак, як дурасьлівыя і гарэзныя дзеці, сьвежанькія, жоўтыя і звонкія будынкі.

На вотшыбе будавалася нешта вялікае. Здавалася, што з пладавітай, чорнай і тлустай зямлі выраслалі дзівосныя грыбы.

* * *

— Вы думаеце нам лёгка было організавацца?.. Вы думаеце, што будынкі, хаханькі?.. Колькі працы, а колькі гадоў трэ' было-б на гэта адзінокаму? Але-ж затое тут комуна...

— Як-бы, значыцца,—талака...

— Ды куды там талака? Талака—гэта на дзень, за выпіўку бывала. Ці-ж гэта на карысьць табе?..

— Ну дык вядома, што і казаць.

— ...А тут,—сабе... каб жыць лягчэй... да сыцыялізму...

Сьвежанькі колгасны пакой густа пахнуў хваёвай смалою. Віўся махорачны дым і мяккімі сінімі воблакамі вісеў пасярэдзіне хаты. Мужчынскіх галоў ня было відаць. На дварэ было шмат сонца—і тут яно памутнела. У воблаках з прыцудамі качаліся ў бакі, як кашлатыя галоўкі капусты, мужчынскія галовы, аднекуль (з воблакаў) плылі: густыя, ценкія, разьбітныя і сіпатыя галасы.

Твары зрабіліся шыза-сінімі. Спазнаць чалавека можна было толькі зблізку. Я аніяк ня мог бачыць хто гэта гаварыў за сталом і тых, хто яму дапамагаў у прамове, падхопліваў ягоныя словы.

Аднак. —

Я сяджу на лаўцы і думаю аб гэтых простых, шчырых словах. Колькі ў іх праўды, колькі цьвёрдасьці. І хто гэта можа ўжо зьмяніць іхныя погляды на новае жыцьцё, іхныя погляды да новых прагных далей, калі ў людзей нясплюшчыліся вочы?..

Хто сказаў, што можна сілком накласьці на чужыя вочы чорную павязку і ніколі пасьля гэтага яе нельга зьняць? Хто сказаў, што век можна глядзець і нічога ня бачыць?..

Хто гэта сказаў?

Гэта-ж вось у воблаках махорачнага дыму стаяць цеснай сьцяной родныя адзін аднаму людзі з мазалямі і так яскрава бачаць нашыя далі...

З цяжкасьцю выціскае чалавек словы. Словы-ж, каб яны ўжо згарэлі,—як калоды тыя, цяжкія. Мо' калоды бываюць і лягчэйшыя, але словы цяжкія, калі іх трэба гаварыць людзям, а тыя будуць іх узважваць, мацаць і ацэньваць... Словы кладуцца мо' і нязграбна, але ўдала і да месца.

— ...Знаеце, таварышы дарагія, каб ня нам... Нам мо' будзе яшчэ і цяжка, а вось дзецям... для дзяцей усё, для іх...

— Іш, куды гне?..

— Ціха. Ён ка' да ладу.

— ...Мы ў колгас падаліся і, паверыце, што проста паздаравелі, павесялелі... Жыцьцё на нам адкрылася, шчасьце... Вы бачылі як мы гібелі ў бядоце, хлеба на стале ня было... Рабілі, браточкі, на Самуся, калі хочаце ведаць... А сабе?.. Чорт яго бяры—і так пражывом! А вочы былі як хусткай чорнай зьвязаны. Няграматнымі былі. І баяліся, ды баяліся каго? Чорта лысага, гада недапечанага. Самуся баяліся, што вось калі прыдзеш да яго пудзік мукі пазычыць—па карку дасьць. Каню ды карове ношку саломы пашкадуе. І адрабляй яму за гэта, ды старайся—маўчы. Хоць-бы што...

— Правільна! Гэта ты гаворыш правільна!

— Пачакай, пачакай,—перабіў адзін аднаго.—Пачакай, дай я скажу, дай я... Пачакай, я гаварыць буду, мне слова... Мне!

— Ну, гавары!

— ...Мы, брат, кажаш Кастусь, раней, пакуль, значыць, вы не раскулачылі яго, Самуся гэтага, ну, на яго рабілі, а цяпер...

— Ну, што-ж цяпер?

— Што цяпер?

— Га-га?..

— ...На кілікцыў, на комуну!..

— Ну, а гэта-ж каму? Гэта-ж нам самім...

— Го-го-го-о, самім?!. Ну і хапіў, сукін сын! Самім. Чортаму лысаму! На гарадзкіх працуем, на прахвостаў, на тых, што „рукі ў брукі"...

— Га-га-га-а.

— Ха-ха-ха-ха-а-а...

— ...Што, на гарадзкіх, кажаш?.. Мужчыны. Ды вы вазьмеце вочы ў рукі, ды зірнеце, ды пакумекайце... З чым мы распачалі нашу гаспадарку і паглядзеце цяпер, што ў нас у засеках, у хлявох якава скаціна, машыны...

Збоку нехта яхідненька:

— ...а тым, што там сядзяць ды „рукі ў брукі"... Хі-хі-хі...

— ...Эх, вы! Ды мы тым фігу даем! Праўда, мы організавалі чырвоныя абозы... Гэта хлеб для гораду. Гэта—для рабочых, для тых, хто даў нам машыны, жалеза, адзежу. Што-што, а і гэта яшчэ трэба вам тлумачыць... гаварыць! Эх, людзі!

Захісталіся жытнія каласы ў буру. Загудзеў бор у непагоду. І сярод гэтага гуду прарваўся адзін высокі голас:

— Іду! Пішы, Кастусь—я іду! Чорт з імі!

Сьціхла ўсё.

— ...Даволі гаварыць, не маленькія ўжо мы. Я гараваў калісьці, а цяпер вось паглядзеў на іх, і думаю, што не прападу...

— Хто гэта?

— Хто—хто?

— Ды гэта-ж Самусёў парабак.

— А-а-а?!

— Вы як сабе хочаце, мужчынкі, вам я ведаю, другое ў галаве, а мне што?!. Бачу я як жывуць людзі: не галодныя, абутыя, адзетыя... Пішы, Кандрат Пракопчык!

Загулі, перапляліся, узноў разышліся, потым узноў замітусіліся ў воблаках дыму моцныя, як дубовыя камлюкі, галасы... скамячыліся ў жывы клубок.

— ...Дык там і мяне,—Андрэя..

— ...Апанаса Грэ.. (і недаказаў).

— Куліка... Куліка..

— Чакайце, чакайце. Давайце падамо агульную заяву...

Нехта надаўмеў расчыніць акно. І адразу-ж у хату ўліліся: тлусты пах прэлай зямлі, чырыканьне вераб'я і маладое сонца...

У хаце было сонца.

Гэта адчуваў ня толькі я, а і ўсе прысутныя. Я глядзеў на людзей. Гэта мне мусіць здалося, што на іхных тварах няма змаршчакоў! Быць ня можа! Вось перада мною стаіць мужчына сярэдніх гадоў. У яго няпрыгожы, грубы, трохі плёскі твар. Рэдкія бялявыя вусы. Рэдзенькая ў тры шчацінкі барада. Вочы лупатыя і наверсе. Глядзіць надта глупа, па-цялячы. Але што такое?.. Ні аднаго табе змаршчака.

— .. Падвядуць, брат, пад манастыр...—нехта асьцярожна кінуў каля яго.

І дзіва. Змаршчакоў зьявілася ў суседа—што ў старой бабулі.

— Ды ня можа быць?..—нясьмела і наўпэўнена кінуў ён хрыпла.

— Вот я табе...

— Кінь!—перабіў звонкі і бадзёры голас.—Ня хочаш ісьціу ў колгас—ня ідзі, а другога не агітуй. Дзядзька, Кулік, ня вер хлусьні! Прыдзі да нас і паглядзі...



Чырвонаармейцы дапамагаюць колгасьнікам

З-за воблачка выбліснула сонца і засьмяялася на камсамольскай портупеі і на Кулікавым твары... Змыла баразны...

— Ды я што... я нічога... Я першы ў колгас, таму як бядняк...—і пацякла ўсьмешка.

Растала, як цукар у гарачай вадзе, і махорачнае воблака ў хаце. Я гляджу вакол сябе і спыняюся на старшыні. Нешта знаёмае. Недзе бачыў. А дзе? А калі?..

Ламаецца памяць. Паўстаюць малюнкі, мільгаюць як з акна цягніка тэлеграфнымі слупамі вобразы, прозьвішчы і, у сваім бясьсільлі ўспомніць, вярней, прыпомніць гэта абліча, пры якіх падзеях мы сустракаліся...— не магу. Тады нейкая падымаецца злосьць, нэрвовасьць. Я камячу шапку. Гэта бывае ня толькі са мной адным, а мне думаецца,—з кожным.

Кучаравая галава, хударлявы твар з папяловымі ад рэдкай сівізны вусамі, і вочы...

Пачакай! Дзе-ж гэта, ну дзе-ж гэта?..

Я слоў больш ня чую. Яны ўжо не для мяне. У мяне адны толькі думкі, успаміны..

Грукаюць ботамі. Сьціскаюць з усіх бакоў і выпіхаюць на двор. А там сьлепіць сонца. Кружыць галаву хмель вясны.

Я стаю каля парогу. Чакаю. Вось яна тая кучаравая галава, тыя шэрыя з павалокай вочы. Яны зьдзіўлена шырацца і застылі. Потым бачу я як праменяцца яны радасьцю.

— Таварыш... Таварыш?!. Якім гэта чынам?.

— ?!.

— Не пазналі?!. Некалісь былі ў нас!.. А мая тады гаспадыня...

— Стой... Стой! Ведаю... Ведаю!..—я цісну ягоную руку, сьмяюся, ня ведаю з чаго пачаць гутарку.

— ...Цяпер ужо ня тое!..—кажа ён мне.—Я, праўду сказаць, старшыня колгасу... Чулі мо' та-і колгас „Маладняк"? Гэта-ж я ўнёс прапанову так назваць. На ўспаміны аб вас... Я вас ніколі не забуду. Пойдзем паглядзімо наш колгас... мо' напішаце што аб нас.

— А як-жа ж, а як-ж ж!.. Ну, а дзе вы цяпер жывіце?

— Ды я, браток, цяпер як на сьвет нарадзіўся. У новай хаце жыву, а дзеці вучацца. Дагледжаныя. І пункт мэдыцынскі ёсьць. Я ўжо што-што, а аб гэтым падумаў... павучыўся ўжо на гэтым!

А калі мы ішлі каля школы—высыпалі насустрач дзеці і з гарэзнай радасьцю абступілі нас вакол.

— Тата, ты куды гэта?

— Вось таварыша павяду, пакажу як мы жывём...

Потым адвеў у бок сваю дзяўчынку і пашаптаўся з ёй.

— Дзядзька?..—шармазнуў за кастусёва рукаво хударлявы і чорненькі, як жучок, хлапчук.—Дзядзька?.. А тата мой уступіў у колгас?..

— Уступіў, уступіў, сынку!

Хлапчукоў твар расплыўся ўсьмешкай. Ён закруціў на палец канец сіняй з белымі бабачкамі рубашкі і з падскокам пабег ў школу.

— Што, гэта вашы дзеці?

— Мае! Вось трое іх. Усе ходзяць у школу. Раней—ніводнае ня было ў школе—некалі! То каля дому, то з вясны да „пакроў" — у полі. А цяпер...

Я глядзеў на іх і веры не даваў сваім вачом. Тады яны былі чорныя, худыя, абадраныя (гэта калі быў я ў іх узімку). А цяпер перада мною—чысьценькія, абмытыя, абутыя.

Раптам званок. Дзеці нас пакінулі.

Густа сьвяціла сонца. Разам з мядовым пахам я адчуваў звон зямлі, і глыбіню чалавечай душы новага чалавека, як глыбіню сьветазарнай далі неба.

Сьмяяліся жоўтыя будынкі колгасу „Маладняк" і сьмяялася маё сэрца.

* * *

— Ну, куды-ж мы цяпер?—запытаў я ў Кастуся, калі абышлі ўвесь колгас.

— Да мяне! Ужо прышлі дзеці са школы.

— Дзякую, будзе позна!..

— Не-не!—перабіў Кастусь і я заўважыў як у ягоных вачох заіскрылася апаска. — Не-не! Зойдзем, зойдзем, шкадаваць ня будзеце...

Я зайшоў. Кастусь жыў у хаце на два пакоі. Як толькі мы адчынілі дзьверы, нас сустрэла... Хто-б вы думалі?.. І я ня верыў!

— Мікола!

— Марыля, дык ты тут?

— Тут!

Мы селі. Кастусь пачаў рыхтаваць гарбату.

— Ну, як табе тут, Марыля?

— Нічога!—І сонца на твары.—Настаўнічаю!—. памаўчаўшы.—Ведаеш—я шчасьліва..

. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

Ці трэба больш гаварыць?

Думаю, што не!

1929-1930 г.

Менск.

# ВЕРШЫ ЦІШКІ ГАРТНАГА

## КАВАЛЬСКІ ЦЭХ.

Горан к горану—агнём,
Молат к молату—ударам:
— Мы жалеза варым, варым,
— А мы сталь куём, куём.

Ходзяць ўзмахі крэпкіх рук,
Сыпле іскры дождж пякучы.
Будзь, таварыш, ў працы ручы,
Выпускай чарговы плуг.

Да заводу — вось чуваць —
Мчацца воклічы з колгасу:
„Ждом плугоў мы; няма часу
Пахань далей адкладаць!"

Дзьмі, разгарвайся гарно;
Молат молату — падгонам:
На табліцы, на чырвонай
Нас дагэтуль ня відно!

Цэх сьлясарскі абагнаў?
Цэх кавальскі стаў пазадзе?
Ці-ж ён пляну свайму здрадзіў,
Ці сумненьню ён падпаў?

Разгарнецеся дружней,
Вышэй творчыя парывы!
Перавышкаю прарывы
Мы залатайма свае.

Плуг да плугу — у рады,
За машынаю — машыну;

Мостам стройным перакіньма
Ад заводу мы — туды,

Дзе шырокія палі
Навароджаных колгасаў
Пралягаюць рунным пасам
Па адноўленай зямлі;

Дзе абуджвае сваім
Трактар вёску гулкім зовам...
Пойце голасам сталёвым,
Малаты, працоўны гімн!

Разгарайцеся, гарны,
Сталь упартую варыце,
Працай спорай багаціце
Скарб рабочай стараны.

Самі-самі, для сябе
Мы будуем, ладзім, творым!
Нашай стройкі тэмпаў спорых
Вораг ўжо не пераб'е!

Кожным повертам станка,
Кожным вугалям гарачым —
Перамогу сваю значыць
Пролетарская рука!

Ў бляску полымя з гарноў
Ўздым разьвойнай працы ходзіць!
Ён Комуну нам прыводзіць
Ў вычным сьпеву малатоў!

## НАД КОЛГАСНАЙ ЗЯМЛЕЙ.

Загулі,
Зараўлі
трактары радамі,
і струной правялі
сьлед свой баразнамі.

—

Пачакай,
пачакай
межная запятка:
ня спыняй,
ня спыняй
ня рэж ніў на градкі.

—

Навакол
як відаць
поле ў адну ніву;
сталі сеяць і жаць
дружна колектывы.

—

На пазбыў,
у адкід
адышло старое;
сьветлых дзён краявід
нам прынёс другое.

—

Годзі нам
надалей
дробнай гаспадаркі;
нагарчылі вачэй
цяжары і сваркі.

—

Як адзін —
сябрыня
дружная — краіне...
плуг стальнога каня
мякка глебу ўскінуў

—

З-пад кіпцёў
кулака
колгас выбіў устоі!..
Пролетару станка
трактар шле здаляка
дзякуй баявое.

—

Хай віхрue
уздым
творчага экстазу,
па Саюзе, па ўсім
ўсходзяць скрозь колгасы.

—

І на вокліч гудкоў
фабрык ды заводаў
хлеб, сабраны з палёў,
для рабочых звозяць.

—

На сустрэчу-ж,
у адказ,
дае селяніну
пролетары ў колгас
новую машыну.

—

Ой, гудзі,
ой, сьпявай,
трактар і сырэна!
Ўздымны рух паднімай
к чыннасьці старэннай!

—

Хай
шыпяць варагі,
хай надзеі лашчаць!
Не дамо стараны
мы ў крыўду нашай!

—

Як вялі —
павядзём
неравышным плянам
мы яе к сьветлым днём
ходам нястрыманым.

—

Пролетар
і бядняк —
селянін, колгасьнік,
комунізму маяк
распаляюць ясны.

—

Грайце-ж песьню
мацней,
трактары,
сырэны.
Над колгаснай зямлей
і ў заводзкіх сьценах.

# РАЗЬБЯРСТВА САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ







**Разьбяр ГРУБЭ**

Апошні час зрабіў помнік Леніну, здымак гэтага помніку ў свой час друкаваўся на стар. „Чырвонае Беларусі" на малюнку стары твор „Падняволеная праца"

**Разьбяр АЗГУР**

„Ян Фабрыцыус" і „Трактарысты", зроблены па заказу Музэю Рэволюцыі




**Нарыс Т. Ругера.**

**Малюнкі Я. Разанава**

I

На старонках часопісу „Чырвоная Беларусь" мы аднойчы апавядалі пра лёс расійскага экспэдыцыйнага корпусу, які ў 1916 г. быў пасланы царскім урадам на францускі ды саксонскі фронт, каб дапамагаць саюзьнікам у змаганьні з цэнтральнымі дзяржавамі і каб прадстаўнічаць нам на Захадзе „моц ды сілу расійскае імпэратарскае арміі". Апавядалі мы і пра пакуты расійскіх салдат за мяжою, і пра курцінскае паўстаньне, што жорстка задушана ў Францыі, і пра раздольнае жыцьцё афіцэраў, і пра лабоі расійскіх салдат, лабоі, якія нават францускі салдафон маршал Жофр прызнаў занадта жорсткімі.

Але ёсьць мясьціна і ў гісторыі пакут расійскага экспэдыцыйнага корпусу ў Францыі, мабыць, невядомая савецкаму чытачу. Гэта мясьціна—чорная марсэльская справа пра васьмярых салдат чацьвертага асобнага пяхотнага палка, другое асобнае дывізіі, расстрэляных паводле царскага загаду.

Пра гэтых васьмярых расійскіх салдат і хочам апавядаць сёньня нашым чытачом.

---

Доўгую дарогу зрабілі першыя часьці расійскага экспэдыцыйнага корпусу, пакуль не дасягнулі Марсэлю—буйнага партовага гораду на беразе Міжземнага мора, на поўдні Францыі. І ўсю дарогу, на працягу трох месяцаў, ад самае Масквы—праз Сібір, праз Японію, праз Гонконг, праз Сінгапур і да самага Марсэлю—царскае афіцэрства трымала у абцугох салдат, каралә іх за самую маленькую віну.

— Дысцыпліну давесьці да вышэйшай ступені. Расійскі экспэдыцыйны корпус павінен быць прыкладам для ўсіх саюзных салдат—такая была дырэктыва зьверху, такі быў загад каманданьня. І гэты загад, з усёю жорсткасьцю, ажыцьцяўляўся начальніцкім складам палкоў.

Між гэтым, сярод салдат яшчэ ў Маскве панавала буйнае нездавальненьне. Па-першае, дысцыпліна была занадта жорсткая, па-другое, ехаць у сьвет, у нейкую, нямаведама дзе Францыю, нікому не хацелася. А тут яшчэ, па дарозе, у Вялікім акіяне нямецкія падводныя лодкі ганяліся за расійскімі параходамі. А на гэтых самых параходах гэтых-жа расійскіх салдат харчавалі тухлымі консэрвамі.

— Самі, нябось, валацугі, у кают-кампаніі курацінай абжыраюцца.—нездаволена гаварылі салдаты пра афіцэраў.

На параходзе хадзілі і іншыя чуткі. Казалі, што нібыта адзін афіцэр чацьвертага палка—палкоўнік Краўзэ па радыё мае сувязь з нямецкімі падводнымі лодкамі, што ён, як немец, хоча прадаць расійскія галовы ворагу.

Усё гэта прывяло да таго, што калі салдаты чацьвертага палка пэвысаджваліся ў Марсэлі і былі часова разьмешчаны ў лягерах недалёка ад порту—дык сярод іх пачалося глыбокае, хоць яшчэ і затаенае ад начальніцкіх вачэй нездавальненьне.

II

Між тым у Парыжы ішло жыцьцё і барацьба. Там выдавалася расійская газэта цымэрвальдзкага кірунку „Наше Слово". Там працавалі розныя рэволюцыйныя організацыі, рэволюцыйныя групоўкі, у прыватнасьці і расійскія эмігранты.

А за работаю эмігрантаў, за работаю газэты „Наше Слово" сачылі царскія шпегі, царскае пасольства на чале з самым „ягосьветласьцю паслом яго імпэратарскае вялікасьці" Ізвольскім. Задача пасольства была—дамагчыся забароны газэты „Наше Слово" (у той час у Парыжы яна выходзіла легальна), высылцы яе рэдакцыі, спыненьню ўсялякай рэволюцыйнае работы эмігрантаў у Францыі.

Але як пачаць, як прымусіць францускі урад зачыніць расійскую газэту, калі яна зусім не парушае такіх францускіх правілаў, калі да яе няма як прычапіцца?

І тады Ізвольскім і ягонымі памочнікамі вырашаецца—шляхам провокацыі прымусіць урад Брыяна зачыніць газэту „Наше Слово" і выслаць усіх яе рэдактараў за межы Францускае рэспублікі. Тады пнуцца давесьці, што расійскімі рэволюцыянэрамі-эмігрантамі вядзецца рэволюцыйная пропаганда сярод салдат расійскага экспэдыцыйнага корпусу, што эмігранты развальваюць расійскае войска, што яны сваёю пропагандаю ламяншаюць яго баяздольнасьць.

— Развал расійскіх войск можа перакінуцца і ў францускае войска—папярэджваюць расійскія генэралы францускіх міністраў і францускае камандаваньне.—Рэволюцыйная зараза атруціць і саюзныя вайсковыя часьці.

І як вынік: трэба зачыніць газэту „Наше Слово", трэба выслаць з Францускае рэспублікі расійскіх рэволюцыянэраў, трэба пакласьці канец іхнай пропагандзе.

А каб наглядаць за расійскімі салдамі, каб шпегаваць за імі, каб зьбіраць яго ў мэтах абвінавачаньня ў рэволюцыйнай рабоце сярод расійскіх салдат, у часьці расійскага экспэдыцыйнага кірунку накіроўваюцца ў якасьці перакладчыкаў асобы, якія ведаюць францускую і расійскую мовы, асобы, якія карыстаюцца поўным давер'ем як францускае, так і расійскае ахранкі.

Францускі буржуазны ўрад ішоў насустрач расійскаму царскаму пасольству, каб ліквідаваць расійскія рэволюцыйныя організацыі на францускай тэрыторыі. Брыян (тады міністр замежных спраў) і Мальві (тады міністр унутраных спраў) шукалі толькі больш-менш законнае зачэпкі, каб ажыцьцявіць гэтае супольнае з Ізвольскім жаданьне.

Гэтая зачэпка і была знойдзена, калі ў Марсэлі расійскія салдаты забілі палкоўніка чацьвертага асобнага пяхотнага палка—Краўзэ.

III

„Чалавек, з якім перасылаецца ліст, Вінінг—быў раней замешаны ў політычную справу, але ён здолеў зусім рэабілітаваць сябе ў нашых вачох. Памажэце яму прыладзіцца у расійскім войску ў Францыі. Ён ведае Ікса" [1]).

З такім лістам ад расійскага консула ў Англіі да расійскага консула ў Францыі прыехаў Вінінг у Парыж у 1916 годзе.



[1]) Л. Троцкі „Вайна и революция", том II. стар. 346



Хутка пасьля таго, як прыбыла войска на тэрыторыю Францускае рэспублікі, прыладзіўшыся праз расійскага консула перакладчыкам пры нашым экспэдыцыйным корпусе, Вінінг перш, чым пакінуць Парыж, імкнецца пралезьці ў рэволюцыйныя і радыкальныя гурткі расійскае эміграцыі, імкнецца зрабіцца „сваім" чалавекам.

— Я падаўся ў расійскае войска, каб там сярод салдат весьці рэволюцыйную работу,—паціханька казаў ён рэволюцыянэрам і радыкалам.—Вы паклапацецеся, каб рэгулярна пасылаць мне рэволюцыйную літаратуру для салдат.

Чаго хацеў Вінінг—зусім відавочна. Каб расійскія эмігранты пайшлі на ягоную провокацыйную вуду, дык францускай ахранкаю была-б знойдзена зачэпка да рэволюцыйных організацый.

Не дайшоўшы толку ў Парыжы, атрымаўшы ад расійскіх эмігрантаў халодную і пагардую адмову, Вінінг прападае з парыскага кругавіду і перабіраецца на „работу" ў войска (на поўдні Францыі) порт. Тулон. У Тулоне Вінінг працуе, як провокатар сярод расійскіх маракоў, садзейнічае паўстаньню на расійскім крэйсэры „Аскольд"—паўстаньню, якое было надзвычай жорстка задушана францускай і расійскай уладамі. (Крэйсэр „Аскольд" пасьля быў адпраўлены ў Дарданэлі, дзе і прымаў удзел у марскіх баёх саюзных экскурсій супроць туркаў).

Не дабіўшыся конкрэтных вынікаў у Тулоне, ня здолеўшы давесьці францускім уладам удзел расійскіх рэволюцыйных організацый у падрыхтоўцы паўстаньня на крэйсэры „Аскольд", Вінінг перабіраецца ў Марсэль, дзе ў той час у лягерах мясьціўся чацьверты асобны расійскі полк, чакаючы свае адпраўкі на фронт у Салонікі.

IV

А ў лягеры каля Марсэлю камсклад зьдзекваўся над салдатамі чацьвертага асобнага палка. Іх муштравалі на лягерным пляцы, у прысутнасьці французаў білі па твару, у горад забаранялі хадзіць нават у сьвяточныя дні, за малюсенькую правінку ставілі „пад вінтоўку", саджалі пад арышт, білі дубцамі. Сярод салдат чацьвертага асобнага палка расійскага экпэдыцыйнага корпусу расло глухое абурэньне.

І вось аднойчы (справа была ў жніўні 1916 г.) адбылося тое, што павінна было адбыцца. У Марсэльскім порце арыштавалі некалькі расійскіх „дэзэртыраў", г. зн. салдаты, якія без дадзеных на звальненьне пайшлі ў нядзелю пагуляць у горад, і нават ня думалі хавацца ад вайсковае службы.

За „дэзэртырства" ж" жорстка караюць.

Але Краўзэ (камандзір батальёну палка) гэтым не абмяжоўваецца. Ён асабіста прыходзіць на вячэрнюю праверку ў адну роту і пачынае ў грубай форме „дапінаць" салдат, пагражаць пабоямі, судом, расстрэлам.

І тады салдаты не маглі стрымацца.

— Бі афіцэраў, бі крывасмокаў,—раве салдацкая маса.

Тухне электрычнасьць. І праз некалькі хвілін скрываўлены труп палкоўніка камком ляжыць на падлозе францускае лягернае кашары.

А Вінінг, за некалькі дзён да крывавае расправы старанна раздаваў салдатам экзэмпляры газэты „Наше Слово". Гэтыя экзэпляры і былі знойдзены ў некаторых салдат пры пошуку францускіх і расійскіх сьледчых органаў. Вінінг-жа, пасьля крывавае марсэльскае трагэдыі, зьнік з кругавіду.

---

Вынікі забойства палкоўніка Краўзэ ў Марсэлі не забавіліся адгукнуцца і ў Парыжы. Грунтуючыся на знойдзеных у салдат экзэмплярах газэт, расійскае па прэдзтва прасіла францускі ўрад зачыніць газэту і выслаць з Францыі яе рэдактараў—у чым ахвотна і атрымала згоду ад ураду Брыяна, Мальві, Жуль Геда, Самба і Альбэрта Тома (апошнія тры—соцыялістыя). Некаторыя з „левых" дэпутатаў францускага парляманту спрабавалі хадайнічаць перад Брыянам, каб адмяніць загад пра высылку, правільней кажучы, яны нават не прасілі пра адмен загаду, а толькі цікавіліся аб прычыне зачыненьня легальнае газэты „Наше Слово" і адміністрацыйных захадаў супроць рэдакцыі.

Цёмная марсэльская справа мае для нас дваякі сэнс, яна павінна разглядацца намі з двух процілеглых адзін другому пунктаў гледжаньня.

Першы - факт забойства салдатамі чацьвертага палка палкоўніка Краўзэ—выразна гаворыць нам пра тое, якія настроі панавалі тады між салдат экспэдыцыйнага корпусу, якая клясавая нянавісьць ужо тады кіпела ў іх да рэакцыйнага афіцэрства,—як далёка былі ўсе гэтыя настроі ад „вернасьці кароне і адданасьці манарху". І ўся далейшая гісторыя экспэдыйнага корпусу (асабліва курцінскае паўстаньне, пра якое мы ўжо пісалі ў адным з нумароў „Чырвонай Беларусі") толькі сьцьвярджае ўсе нашы вывады пра рэволюцыйныя настроі сярод расійскіх салдат у Марсэлі.

Але гэта толькі адзін бок пытаньня.

Другія факты гавораць пра тое, што марсэльская справа была скарыстана (часткова праз провокатара Вінінга, можа ім і організаваная) расійскім пасольствам у Парыжы, каб, па-першае, дамагчыся ліквідацыі расійскіх рэволюцыйных організацый у Францыі, і, па-другое, апраўдаць перад францускай грамадзкай думкай тую палачную дысцыпліну, якая практыкавалася да салдат расійскага экспэдыцыйнага корпусу ў Францыі. Можа расійскія генэралы і ня думалі, што справа зойдзе настолькі далёка, што провокацыя будзе каштаваць жыцьця аднаму з царскіх штаб-афіцэраў. Але гэта ўжо, як кажуць, была рызыка профэсыяналаў - провокатараў, перад катораю ў змаганьні з рэволюцыйным рухам царскі ўрад ніколі ня спыняўся.

Для вачэй, камандзіра вінаватае роты адаслалі нават у Расію. А тады ўзяліся за суд над „бунтаўнікамі".

V

Суд быў хуткі і „справядлівы" Дзякуючы таму, што пры ўсіх хітрыках сьледчых улад вінавайцаў забойства палкоўніка Краўзэ знайсьці не ўдалося (пэрсональна іх па атсутнасьці справы і ня было, бо ніхто з салдат загадзя гэтага забойства не падрыхтоўваў, у цемнаце-ж афіцэра біла ўся рота), а з другога боку, што прышоў рашучы загад з Пецярбургу—„вінаватых знайсьці і як сьлед пакараць", дык... сьледчыя ўлады зьвярнуліся і на гэты раз да свайго аблюбаванага спосабу.



Напужаўшы аднаго маладога дабраахвотніка роты (на жаль, ні прозьвішча гэтага дабраахвотніка, ні прозьвішчаў ахвяр царскіх катаў аўтару гэтых радкоў не ўдалося даведацца) і пастроіўшы перад ім усіх салдат, царскія сьледчыя ўлады загадалі яму паказаць забойцаў, — прычым гэтых забойцаў павінна быць ня менш васьмярых.

— Кажы прозьвішчы, а то кепска будзе!—грозна падганялі яго залатапагонныя каты.

— Во гэты, гэты... — шаптаў дабраахвотнік. наўгад паказваючы салдат.

Арыштавана было васьмера... І ўвечары таго самага дня ўсе восем чалавек, расійскім ваенна-палявым судом на францускай тэрыторыі былі прысуджаны да сьмяротнае кары праз расстрэл

# ПАГРОМ У ЗАХОДНЯЙ УКРАІНЕ

*Нарыс Б. Гарыпэнкі.*

„Ще пожари Україну, нагриють, осьвитять“ прароцкія словы Тараса Шэўчэнкі зьдзяйсьняюцца зноў у нашыя дні, у дні XX стагодзьдзя. Гарыць Заходняя Украіна, у дыме і пажарах краіна. Паслухаем словы навочнага сьведкі, які вырваўся са Львову і выдрукаваў корэспондэнцыю ў нямецкай газэце „Дэйчэ Тагесцайтунг“.

„У нас адбываюцца рэчы, пра якія ніхто ня думаў, што яны могуць калі-небудзь адбыцца ў якой-небудзь прававай дзяржаве. У Тарнопальскай акрузе, якая налічвае 80 вёсак, зьнішчана маемасьць у паловы зьбітага насельніцтва. Нячуваным тэрорам улады прабуюць прымусіць насельніцтва ня ўдзельнічаць у выбарах. Уведзена колектыўная адказнасьць усяго украінскага народу за антыпольскія выступленьні асобных людзей. Гэткае барбарства існавала толькі ў сярэднія вякі. Вёскі, у якіх адбываюцца пажары, абкружаюцца паліцыяй, усё насельніцтва выганяецца на плошчу, і паліцыя распачынае зьверскія катаваньні. Закатавана сотні сялян. Характэрна, што непасрэдна сяляне абавязаны ўтрымліваць на свой кошт карныя атрады. У працягу дзесяці хвілін пасьля атрыманьня загаду сяляне павінны выплаціць накладзеную на іх контрыбуцыю. Перадвыбарчую агітацыю могуць весьці толькі паліцэйскія. Пад пагрозай расстрэлу паліцэйскія прымушаюць украінцаў прысягаць на вернасьць Пілсудзкаму і адмовіцца ад сваіх украінскіх організацый“.

Гэта словы навочнага сьведкі, які свае ўражаньні выдрукаваў у буржуазнай газэце.

Бомбы, падпалы, забойствы, порка, біцьцё шомпалам, бізун, збойства конскімі капытамі сялянскага натоўпу—усё гэта сродкі з арсэналу польскага фашызму для „пацыфікацыі“ Заходняй Украіны.

Пацыфікацыя—слова надзвычайна далікатнае. Яно вельмі тонка гучыць; нават ня толькі тонка, але і мілагучна: пацыфікацыя—пацыфізм—міралюбства.

Як усё гэта добра, як усё гэта прыемна бывае на словах, бо ў жыцьці гэта часам інакш выходзіць.

Спытайцеся селяніна з Заходняй Украіны. Ен вам дакладна растлумачыць сэнс гэтага слова, бо яго сьпіна надзвычайна добра ўспрыняла пацыфікацыю ва ўсім значэньні гэтага слова.

Ён вам скажа:

— Пацыфікацыя—гэта значыць, што ня маеш права украінцам звацца; ты павінен казаць, што ты русін.

— Пацыфікацыя,—гэта значыць, што польскі жандар бомбай узарве тваю хату, а ты павінен абавязкова сказаць, што хату ўзарвала бомба, якую ты зьбіраўся кінуць у польскі карны атрад.

— Пацыфікацыя,—гэта значыць, што украінцы ўласнымі рукамі павінны пісаць заяву, што яны патрабуюць зачыненьня украінскіх школ, украінскіх клюбаў, украінскіх газэт і коопэратываў.

Гэтак хоча польскі фашызм, гэтак вымагае ваенна-окупацыйны рэжым, уведзенны на Заходняй Украіне.

Пацыфікацыя... Кроў... Пажары... Калецтвы... Тысячы польскіх уланаў спраўляюць крывавы баль на сьпінах працоўных мас Заходняй Украіны. Барбарскае зруйнаваньне украінскіх культурных установ, нясутрымны разгул паліцэйскага зьдзеку; вось гэта і ёсьць пацыфікацыя па-польску. Толькі зьвярыная нацыянальная і соцыяльная нянавісьць магла выклікаць гэткую нябывалую лютасьць.

Імпэрыялістычнае гаспадараньне польскага фашызму ў Заходняй Украіне зрабіла працоўныя масы гораду і вёскі ахвярай агіднейшых гвалтаў і зьдзекаў. Краіна даведзена да голаду і галечы. Нячуваная эксплёатацыя батракоў і сялянскай беднаты, якія працуюць у абшарнікаў, амаль на прыгонных умовах, ваенная калёнізацыя—асадніцтва на землях, адабраных ад украінскіх сялян,—давялі працоўных Украіны да роспачы.

Клясавы вораг—пан, а ён у пераважнай большасьці—паляк яшчэ больш сьціскаў свае катаўскія кайданы, каб трымаць паднявоненую масу ў паслухмянстве. Паліцыя, жандармэрыя, шпіёны, провакатары, асаднікі, ксяндзы,—уся сіла дзяржаўнага ўціску аказалася нікчэмнай і мізэрнай перад расхваляванай масай, якая ўзьняла сьцяг барацьбы з прыгнятальнікамі.

— На пана, на пана, у маёнтак, у маёнтак,—вось куды клясавая сьвядомасьць вяла ўзбунтаваную масу. Пан, які забірае ад селяніна апошні кавалак зямлі;

пан, які прымушае ў жніво кожны дзень працаваць на пана 12—16 гадзін;

пан, які сілай выганяе жонку селяніна ў поле, каб адпрацаваць капеечную пазыку, якая ў панскай „бухгальтэрыі“ вырастае ў сотні рублёў.—

— Ён быў, ёсьць і будзе тым заклятым ворагам, з якім селянін вядзе заклятую барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць. А іншых паноў у сьвеце ня бывае. Такі пан польскі, пан украінскі, пан беларускі і іншыя паны.

Уся Заходняя Украіна ў агні. Гараць панскія маёнткі ва ўсіх ваяводзтвах, ва ўсіх паветах. Гараць маёнткі польскія, гараць маёнткі украінскія, бо галадаючаму батраку і селяніну ўсёроўна, якой нацыянальнасьці яго прыгнятальнік. Узьнялася хваля барацьбы, хваля змаганьня селяніна Заходняе Украіны за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне.

Польскі фашыстаўскі ўрад накінуўся на Заходнюю Украіну пагромнымі ды карнымі экспэдыцыямі. Украіна наводнена войскам; багата дывізый перакінута сюды быццам для манэўраў. Па ўсіх паветах ідуць суцэльныя вобыскі. У адным толькі Самборы 60 начных вобыскаў зараз (папольску далікатна—„рэвізыя“) Арыштавана 32 чалавекі. Спалох украінскіх буржуазных гаспадарчых, культасьветных установ нагэтулькі вялікі, што кіраўнікі гэтых організацый зьвярнуліся да львоўскага старасты зрабіць у іх вобыск і пераканацца ў іхняй абсолютнай лёяльнасьці да польскай дзяржаўнасьці.

На Холмшчыне зачынена культурна-асьветная таварыства „Рыдна хата“, якая абвінавачваецца ў комуністычнай дзейнасьці. У Перамышльскім і Баброўскім паветах гараць панскія маёнткі. У Станіслаўскім павеце за адзін толькі дзень спалена 6 асадніцкіх гаспадарак. У Львоўскім павеце сяляне страляюць у чыноўнікаў, якія асабліва чынны ўдзел прыймалі ў справе ўсьмірэньня вёскі.

Гэтыя два процэсы ідуць поруч. Карныя экспэдыцыі і рост рэволюцыйнага руху. Сялянства Заходняй Украіны дэмонструе гэтым, што ні бомба, ні шыбеніца ня змогуць заспакоіць бязбрэжнае море соцыяльнай барацьбы, якая вядзецца між працоўнымі і эксплёататарамі.

Паведамленьні, якія ідуць з Заходняй Украіны, даюць такі багаты матэрыял, што нават простая рэгістрацыя фактаў зьяўляецца амаль непасільнай работай для аднаго нарысу.

— Масавыя вобыскі і аблавы ў Гародніцкім павеце. Арыштаваныя накіраваны ў розныя вастрогі. У Збораўскім павеце адбыліся арышты, галоўным чынам сярод сялянскай моладзі. Зроблены аблавы, вобыскі, арышты на тэрыторыі Устрэлеўскага павету. У Бэтвіне зроблены вобыскі і арышты сярод кіраўнікоў мясцовага украінскага таварыства „Лучи“. Масавыя арышты былі ў Львове. Асабліва дакладна абшукваліся коопэратывы і чытальні „Просьвиты“.

І аднačасова,—у шмат якіх пунктах гараць ня толькі маёнткі, але панскія і дзяржаўныя лясы; у Збораўскім павеце невядомыя зруйнавалі помнік польскім салдатам, загінуўшым у час украінска-польскай вайны; у Станіслаўскім павеце цяжка паранены паліцэйскі; невядомыя асобы перарэзалі тэлефонныя правады на вучастку Остраў-Дубна, на Валыні.

Лева-украінская газэта „Сіла“ перадае наступныя зьвесткі аб дзейнасьці карных атрадаў у адным Львоўскім павеце. Гэтыя зьвесткі датычацца толькі пяці вёсак. У вёсцы Кацюрова уланы 14 палка цяжка зьбілі і стапталі капытамі сваіх коняй 18 сялян. Ёсьць надзея, што пяць з гэтых скалечаных сялян застануцца жыць, а астатнія—паміраюць. У вёсцы Паддзярка тыя-ж уланы зьбілі шмат якіх сялян. У часе экзэкуцыі уланы пераламалі рукі селяніну Олексіну. У вёсках Міклашова, Чыжыкава і Віньніцы арудавалі ня ўланы, а паліцэйскія атрады. У Міклашове паліцыя дашчэнту зруйнавала некалькі сялянскіх хат. З хаты селяніна Муроўскага паліцэйскія сарвалі дах. Вясковы коопэратыў зусім зьнішчаны. Тавары абліты газай. У Віньніцах—цяжка зьбіты украінскі вучоны Лукіч-Лявіцкі.

Аднačасова тэлеграмы паведамляюць, што ў аднэй з вёсак Львоўскага павету быў зроблены замах на гміннага начальніка, які зачыніў „Просьвиту“; у раёне Драгобічаў была абстраляна паліцыя; у гэтым самым раёне за адну ноч згарэла 10 маёнткаў.

Тут асабліва яскрава выявіўся фашыцкі твар украінскай буржуазнай організацыі Ундо, якая з першага дню праз увесь час памагае Пілсудзкаму ў яго карнай дзейнасьці супроць украінскіх рабочых і сялян. Орган украінскіх згоднікаў зьвяртаецца да сялян з заклікам... не пасылаць апісаньняў таго, што адбываецца зараз на Заходняй Украіне. Газэта заспакойвае сялян, што „украінская гісторыя ведала і ня гэткія падзеі“. Яна прапануе запісваць нумары паліцэйскіх і прозьвішчы начальнікаў карных атрадаў, а таксама адзначаць сьведкаў, якія прысутнічалі пры „фізычных пакутах“, гэта значыць масавым сьцёбаньні. Газэта прапануе тым, каго ўжо вельмі моцна па-

б'юць, каб яны хадзілі на мэдыцынскія агляды і наогул зьбіралі зьвесткі, якія могуць спатрэбіцца для „судовага працэсу".

Вось які адказ украінскай буржуазіі на карныя экспэдыцыі і вось якая форма „протэсту", якую яны раяць украінскім масам.

Старшыня так званай „Нацыянальнай рады Заходняй Украіны" Пятрушкевіч зьвярнуўся да генэральнага сакратара Лігі Нацый з заклікам аб дапамозе супроць польскага тэрору ў Заходняй Украіне. У звароце констатуецца, што савет паслоў у свой час далучыў Заходнюю Украіну да Польшчы наперакор волі украінскага народу. Пятрушкевіч зьвяртае ўвагу Лігі Нацый на арышты шмат тысяч украінцаў, у тым ліку і дзяцей, на паліцэйскія і ўланскія карныя экспэдыцыі, на лютыя збойствы арыштаваных, на падпал украінскіх культурных і эканомічных установ і на поўнае зьнішчэньне законаў мірнага часу на Украіне.

Заходняя Украіна апусьцела, апусьцелі гарады, апусьцелі вёскі, якія ў немачным спалоху ня ведаюць куды ім бегчы і дзе ім хавацца. Над кожным куточкам Заходняй Украіны, над кожнай вёскай, пад кожным палеткам нясуцца цені, жудасныя цені зруйнаванага народу. У вогнішчы спаленых вёсак, у руінах коопэрацыйных і культасьветных украінскіх установ відны гэтыя цені. Увесь народ — суцэльны цыганскі табар. Украінскі рабочы і селянін пад уціскам фашыцкай Польшчы вымушаны бегчы куды толькі вочы глядзяць, абы толькі выратавацца ад пагрому.

Гэты пагром шмат для каго навукай будзе. Масавыя пагромы, якія польскімі фашыстамі арганізоўваюцца ў вёсках Заходняй Украіны пад сьцягам барацьбы з сабатажам, ускрываюць тое, што даўно ўжо існуе замаскіраваны блёк, агульны фронт польскіх і украінскіх фашыстых. Гэты агульны фронт накіраваны супроць украінскіх рабочых і сялян. Украінскія працоўныя масы ведаць будуць, што ў саюзе з польскім і украінскім абшарнікам супроць іх змагаюцца таксама радыкалы і соцыял-дэмократы. Польскія і украінскія фашыстыя рыхтуюць напад на Савецкі Саюз і таму яны зараз праводзяць сваю „пацыфікацыю".

Супроць украінскіх рабочых і сялян аб'яднаўся ўвесь польскі фашызм. Наступленьне ідзе ня толькі на соцыяльным фронце, але ў значнай меры і на нацыянальным фронце. У радзе раёнаў дзейнічаюць карныя атрады, паліцыя прымушае сялян пад пагрозай прыезду да іх карнага атраду, каб яны самаўласна ўхвалілі рэзолюцыю аб зачыненьні украінскіх арганізацый. У падобных рэзолюцыях звычайна высоўваецца патрабаваньне звацца ня украінцамі, а „русінамі" і даносіць паліцыі пра ўсіх, якія завуць сябе украінцамі.

Сяляне вёскі Людвіковічы ўхвалілі рэзолюцыю: 1) звацць сябе русінамі, 2) асудзіць сабатаж і выказаць поўную лёяльнасьць польскай уладзе, 3) ня слухацца украінскай інтэлігенцыі і адмовіцца ад ўсіх правоў, якія ў Польшчы прызнаны за украінцамі, 4) у часе выбараў галасаваць за сьпіс, які будзе ўказаны ўрадам, або заставацца ў хаце, калі хто ня хоча галасаваць за ўрадавы сьпіс".

Гэткага роду рэзолюцыі багата дзе прыняты, бо паміж жыцьцём і сьмерцю прыходзіцца галасаваць за жыцьцё, хоць яно і пакутнае.

Польскі ўрад утойваў ад Заходняй Эўропы сапраўднае становішча на Заходняй Украіне. Польскі пасол у Вашынгтоне нават прапанаваў амэрыканскім корэспондэнтам праехацца па „пацыфікаванай" Заходняй Украіне. Раптам здарыўся выпадак, які дагары нагамі перакуліў усякія афіцыйныя міністэрскія заявы.

У аднэй з вёсак Баброўскага павету прыехаў да сваіх сваякоў украінец—амэрыканскі грамадзянін Тэодарчук. Карны атрад, які прыбыў у вёску, паміж іншымі цяжка зьбіў і арыштаваў Тэодарчука. Тэодарчуку аднак удалося ўцячы з астрогу ў Варшаву, дзе ён схаваўся ў пасольстве Злучаных Штатаў. Такім чынам сьвет даведаўся пра тое, што сапраўды робіцца на Заходняй Украіне.

Польскі ўрад распачаў кампанію па зьнішчэньню украінскага народу. Але гэта яму ня ўдасца. Компартыя Заходняй Украіны ўжо зараз зьяўляецца галоўным арганізатарам барацьбы з крывавым фашызмам. Усё больш расьце ўплыў і арганізацыйны абхват компартыі. Масы становяцца ў шэрагі барацьбітоў за перамогу. Чырвоны сьцяг комунізму ўзьняты на Заходняй Украіне. Беражэцеся, паны!




омель Вуліца



# БУДУЕМ ПЕРШУЮ Ў СЬВЕЦ

ВІЦЕБСК на папярэднім пляне пабудова элеватара АЛЕИНЯ



КЕРЧАНСК Новы мэталюргічны завод

# Е КРАІНУ СОЦЫЯЛІЗМУ



БУДАЎНІЦТВА

Новы будынак тэкстыльнага цэху гумавага комбінату.




Нарыс Цішкі Вернага

Гомельскага паравоза-вагона-рамонтнага заводу імя Ланцуцкага адразу ня прыкмеціш. Ён загароджаны чыгуначнай станцыяй, дамамі, мастом. На гэтым заводзе ішло спакойнае жыцьцё—так стагодзьдзямі цячэ в-лікі, але ціхі струмень. Каля двух тысяч рабочых штодзенна прыходзілі да сваіх варштатаў, машын, ніколі яны не сьпяшаліся і да працы прыступалі з прыказкай:—„Праца ня воўк, у лес не пабяжыць". Прапрацаваўшы гадзіну—паўтары, павольна рабілі з махоркі „скрутак" і, па два, па тры чалавекі ішлі ў курылку „адпачыць". Так тут працавалі і раней. Працавалі так, каб толькі інструмант ня вывальваўся з рук. Працавалі „абы працаваць", як выказаўся адзін рабочы. Ды, уласна кажучы, куды ім было сьпяшацца? Тут ніколі, ні то што не гаварылі, але і ня думалі аб тэмпах. Тут працавалі з „прахладцам", з „халадком", і ў такой рабоце міналі гады. Але вось па краіне пракацілася магутнае, вялікае:

— Соцыялістычнае спаборніцтва!

Моладзь радасна ўхапілася за гэта.

— Даёш соцыялістычнае спаборніцтва!

— Даёш соцыялістычныя тэмпы!

Захваляваліся лодары і рвачы, зашушукаліся вакол:

— На чорта яна здалася—гэтая новая выдумка!

— Гэта ярмо!

Расьлі плёткі, пашыраліся, множыліся...

Але бальшавіцкая моладзь упартая.

Сход за сходам, паседжаньне за паседжаньнем, нарада за нарадай, і ўсюды:

— Даёш соцыялістычнае спаборніцтва! — Даёш соцыялістычныя тэмпы!

Заміралі чуткі, ніклі плёткі... Танула нездавальненьне гультаёў і рвачоў у бунтоўным моры ініцыятывы і актыўнасьці рабочых мас.

Ламаліся старыя традыцыі. На варштатах зьявіліся лісткі, дзе рукамі саміх рабочых пісаліся соцыялістычныя ўмовы, старонкі вялікай кнігі нашай эпохі пяцігодкі,—ударная брыгала за ўдарнай брыгадай... Узрастаў новы чалавек. Але колькі гэта каштавала?

Людзі скардзіліся:



— Дрэнна з вашым рамонтам. Сёньня выпускаеце, а праз малы прамежак часу зноў на рамонт.

— Дрэнную вы даяце продукцыю. Вялікі прабег страшнавата зраб ць.

— Чорт яго ведае!—абураліся некаторыя,—І куды столькі марна псуюць матэрыялу?

— І як гэта яны працуюць там на заводзе, што цягнік пасьля першага прабегу дае цеч?

— Гэта, таварышы, злачынства. Колькі матэрыялу папсавана!

Патрэбна ўважлівей адносіцца да дзяржаўнай маемасьці.

— Хто сочыць за бакам? Чаму столькі нафты пралілося?

— Эй, хто зваліў гару браку? Ня можа вынесьці, ці што? Хоча, каб галаву зьвярнулі...

— Дзе Андрэй? У сталоўку пабег ужо? Эх, гадзюка, не пачакаў; а да гудка яшчэ паўгадзіны. Пойдзем, ці што, Мікола?

— Гэй, чорт лысы, ня бачыш куды кідаеш, інструмант увесь папсаваў!

— Програма ня выканана? а каму да гэтага справа?

Так, сапраўды. Тут рабочым ня было справы да ўсіх злачынстваў, якія рабіліся ў цэху, і ня толькі ў адным цэху, так было ў кожным цэху. Брак, прагулы, спазьненьні, сымуляцыі, дрэнныя адносіны да варштату, інструманту, п'янкі ў часе працы... У кожным цэху штодзенна можна было наглядаць такія недарэчнасьці. Гэта тады здавалася зусім натуральным. Рабочым ня было да гэтага справы.

— Чаго шкадаваць?—ня нашае... Казённае.

Гудкі крычалі надрыўна і доўга. Тут да гудкоў прызвычаіліся. Зараз гудкі гудуць няўтомна, разрываючы нізка навіслую шэрую посьцілку нахмуранай раніцы. Гэта значыць—уставаць. Гэта значыць—гудкі клічуць да варштатаў.

Старыя традыцыі пусьцілі глыбока свае карэньні, але ім, гэтым старым традыцыям, трэба было абвясьціць рашучую вайну.

Так працаваць далей немагчыма і нельга. Трэба дагнаць і выперадзіць Амэрыку. І за гэтую справу першымі ўзяліся комсамольцы.

Спачатку зьявіліся ўдарнікі — бязвусыя энтузіястыя.

— Далоў павольныя тэмпы! Далоў прагулы і спазьненьні! Далоў нядбайнасьць і п'янку! Далоў брак!

— Усе за рацыяналізацыю, за зьніжэньне сабекошту!..—гэта патрабаваньні бязвусых энтузіястых.

І для пачатку зьнізілі расцэнкі, ануліравалі прагулы і спазьненьні і свае восем гадзін працавалі добрасумленна.

З боку п'яніцы, сымулянты і рвачы абураліся, шушукаліся:

— Сволачы, ім больш усіх патрэбна!

— Падхалімы! Стараюцца, са скуры вон лезуць, і для каго? каму?

— Тэ-х!.. Маць... Размаць...

— Дапрацуюцца!

— Хай націскаюць, а мы халадком.

І „яны", ударнікі, націскалі. Тое, што раней рабілі за тры дні—ударнікі спраўляліся рабіць за два. На вытворчасьці ўдарнікі—прыклад:

— Сапляк!. Вучыць пачалі!—абураліся некаторыя.

Але ўдарнікі не зварачалі ўвагі на ўсе плёткі і пагрозы рвачоў і гультаёў.

— Працаваць так, як працавалі ўчора—нельга.

Гэта добра разумеў кожны ўдарнік, і стараўся працаваць сёньня лепш, чым учора, а заўтра—лепш, чым сёньня.

Энтузіязм бязвусых ударнікаў захапляў і іншых. Рабочы выклікаў рабочага. Брыгада—брыгаду, цэх выклікаў другі цэх.

Хваля соцспаборніцтва ахапіла ўсю масу рабочых...

Газэты білі трывогу:—„Прарыў у выкананьні прамфінплану!"

На заводзе Ланцуцкага таксама атрымаўся прарыў, рабочыя аб гэтым ня ведалі. Потым пачалі біць трывогу і было сапраўды трывожна. У завадзкой газэце „Цягнік соцыялізму" пачалі паяўляцца артыкулы за артыкулам, якія трывожна паведамлялі:—Прарыў! Прарыў!

„Б'ем трывогу! У вагонным цэху прамфінплян за першае паўгодзьдзе цалкам нявыкананы. У маі месяцы, па газэтных вестках, насьпявае вялікі прарыў. Заводакіраўніцтву, цэхпарт'ячэйцы і заўкому трэба прыняць усе захады па папярэджаньні прарываў і да XVI партзьезду прамфінплян выканаць на 100% *Рэдакцыя*".

— Запоўніць прарыў! Звняць пляму! Адставаць—ганьба... ганьба!.. Націсьнем, націсьнем! Перабіралі зубамі шасьцяронкі, вогненнымі іскрамі пырскалі малаты кавалёў, вогненнай ракой ліўся мэталь у апокі, у ліцейкі.

— Ліквідаваць прарыў!—сказалі рабочыя.

— Ліквідаваць прарыў—казала работа.

Ад тэлефонных званкоў ня было спакою. Штохвілінна нэрвова крычалі тэлефоны сваім мэталічным горлам. А потым ужо сыпаліся тэлеграмы:

— Звышпраграмны паравоз скончаны...

І паўзла доўгая істужка, якая здавалася бясконцай. Ключ тэлеграфістага монотонна адбіваў: кропка, коска, працяжнік. Знакі ператвараліся ў літары, літары—у словы і атрымлівалася радасная вестка:

— Звышпраграмны праехаў разьезд. Усё добра.

— Тах-тах!—нясецца гул паравоза.

— Тах-тах-тах!—нясецца дэлегацыя рабочых заводу імя Ланцуцкага ў Менск для прывітаньня XIII усебеларускаму партзьезду на зробленым, звыш праграмы, цягніку.

— Тах-тах-тах!—так працаваць, калі хочаш дагнаць і выперадзіць.

Рабочыя заводу Ланцуцкага працавалі ўпарта. Але ці ўсё там добра?

— У нас шмат недахопаў,—гаворыць ударнік Сай, ініцыятар соцспаборніцтва заводу,—комсамол зараз пляцецца ў хвасьце, ня ўсе комсамольцы ўдарнікі. З боку комсамольцаў і іншых рабочых наглядаюцца прагулы, спазьненьні. Профработа пастаўлена зусім дрэнна.

— Яшчэ няма сапраўднага кіраўніцтва ўдарніцкім рухам на заводзе!

— Самакрытыка яшчэ ня стала штодзеннай зброяй барацьбы з недахопамі! Ёсьць ілжэ-ўдарнікі. Ёсьць рвачы. Недахопаў шмат. З імі трэба бязьлітасна змагацца. Рабочыя паказалі, што яны ўмеюць працаваць, яны пакажуць, што могуць змагацца з недахопамі, якія маюцца і на сёнешні дзень.

— Галоўнае ведаць, дзе слабое месца, дзе патрэбна націснуць.

А тады—зноў у наступ—і перамога будзе наша...

Тав. Сай праў.

Перамога, бязумоўна, будзе наша.

Цьвёрды, упэўнены голас таварыша Сая, цьвёрдыя, упэўненыя вочы іншых ударнікаў—лепшая гарантыя.



# Рэкляма



Малюнкі Г. Кіпніса.

Апавяданьне Анатоля Шыцко.

*Пераклад з расійскае.*

## I

На Бродвэйстрыт, вуліцы золату, дзе адзін небаскроб прагна лезе на другі, ёсьць дом, які розьніцца сваім выглядам ад другіх. Знадворку, упіраючыся ў вялікі бар, з дзьвярэй якога надвечар разносіцца надрыўны факстрот, дом кожныя пяць сэкунд зьмяняў свой колер. Фасад яго, вокны, дзьверы загараліся то фіялетавым, то сьветла-ружовым агнём. Аптычнае шкло, кіноапараты, электрычнасьць працавалі на славу ўладарам Палацу Рэклям.

У люстранага пад'езду снавалі цыліндры, кэпі, капялюшы.

Лякіраваныя аўто з мяккім шумам, уздрыгваючы, зацішалі ход, даючы магчымасьць пасажырам захапляцца тым відовішчам, якое разгортвалася перад імі.

У ліку зявак, якія надрывалі замутнелых, да ўсяго прызвычаеных вачэй, быў Джон Сноудэн, хлапец невызначаных заняткаў, але весела пражытых год.

— Алё! Ты не знаходзіш, браток, што гэты дом малы для дваіх, ну, скажам, для нас з табой?

Сусед, закрануты Джонам, крыва ўсьміхнуўся і, праглынуўшы сьліну, кіўнуў галавою.

— Ты нямы?—зацікавіўся Джон.

— Не. Мне хочацца есьці. Я стараюся як мага менш гаварыць. Кожнае слова для мяне -затрата сілы,—адказаў незнаёмы.

Джон падкінуў носам кепку вышэй і агледзеў гаварыўшага.

На выгляд яму было гадоў трыццаць. Толькі голад змог так памастацку разрысаваць куты і маршчыны на высахшым твары. Рукі і ногі здаваліся кійкамі, якія нібы-та няўдала былі ўстаўлены ў згорбленую постаць малайца.

— Так? Сур'ёзна? Колькі каштуе слова?—запытаўся Джон і падсунуўся бліжэй.

— Па тры цэнты! халера яго бяры,—усхваляваўся незнаёмы.

— Алё. Ідзе. Я выцягну з цябе слова і я плачу за абед.— Затым Джон піхнуў свайго кампаньёна і пацягнуў яго ў маленькае сутарэньне—бар. Незнаёмы ледзь пасьпеў разьвесьці рукамі.

## II

У нізкім, закапцелым бары, дзе было поўна выпарэньняў і ўсхваляваных людзей, Джон бяз ніякай цяжкасьці, слова за словам даведаўся аб знаёмай гісторыі. Выпадковага таварыша яго звалі Гары. Прозьвішча ён сваё забыў таму, што часта зьмяняў яго, ды навошта яно яму, калі няма доляраў?

Джон ківаў галавой, квола смакаваў хвост рыбы і заклапочана глядзеў ад ым вокам на пудзінг, другім—на суседа.

— Таварыш Джон, вы ведаеце?—Гары меладраматычна паківаў пальцам у паветры.

— Зразумела, я ня ведаю, пакуль вы не расказалі мне аб усім, але здольныя хлапцы хутка разумеюць адзін аднаго.

— Добра, я раскажу вам галоўную тайну майго жыцьця... Я закаханы і паміраю ад каханьня.

— Та-ак? Гэта цудоўна! З паўгадзіны назад вы ўпэўнівалі, што паміраеце ад голаду. У такім выпадку мне шчыра шкада дарэмна згубленых грошай.

— Ды, не! Не хвалюйцеся! Яны ня толькі згублены, але ўжо і пераварaны. І гэта вельмі добра. Ня гледзячы на каханьне, я сапраўды паміраў ад голаду. Нью-Ёрк распальвае апэтыт, але не задавальняе.

Джон працягнуў руку.

— Гэта правільна! Што-ж страшнога ў вашым каханьні?

— Яна мяне не кахае,—прастагнаў Гары.

— Чаму? Ці больш правільна, за што? Калі не сакрэт?

Гары перагнуўся праз столік і ледзь чутна сказаў:

— Таму, што я—жабрак.

Джон ад нечаканасьці ўздрыгануўся, рукі яго бяз сілы выпусьцілі відэлец, твар выцягнуўся...

— Ня можа быць! Немагчымае здарэньне! Звычайна жанчыны, якія кахалі мяне, гаварылі тое-ж самае, але калі слухаеш вас, мімаволі робіцца холадна. Ваша апавяданьне надзвычай арыгінальнае! І я баюся, што такую гісторыю мне давядзецца прачытаць у нядзельным лістку. Як завуць вашае каханьне?

— Лаура.

— Ага! Так і ёсьць! Лауры заўсёды гавораць так. У мяне быў выпадак з адной, яе называлі Вергінія, але гэта ўсёроўна, вы гаворыце праўду—гэта жахліва! Што вы думаеце рабіць?

— Зрабіцца багатым,—катэгарычна сказаў Гары.

— Гэта ваша апошняе вырашэньне?

— Апошняе.

— Тады згода. Я гаварыў—разумныя хлапцы падчас бываюць дурнямі.

## III

а

Калі яны выйшлі з бару, Гары зусім павіснуў на шыі Джона і кляўся ўсімі багамі старога і новага сьвету ў сяброўстве і вернасьці да самай магілы.

— Першы крок да багацьця,—закрычаў Гары і паказаў на вогненны Палац Рэклям.

— Ён зьменчывы, як і яго колеры,—быў адказ.

— Я іду,—рашуча заявіў Гары.—Ты—скептык, ты згубіў веру ў людзей, я пайду без цябе,—і Гары сьмела падаўся ў пад'езд.

Узьнімаючыся па мармуровай лесьвіцы, ён першы раз пасьля заявы Лауры быў зьдзіўлены.

Справа і зьлева, то блізка, то недзе пад шкляной столью прабягалі сьветавыя рэклямы. У люстрах нечакана запальваліся плякаты.

— Даглядайце за сабой,—падхватваў гучнагаварыцель і Гары, схапіўшыся за галаву кідаўся ад адной сьцяны да другой, ня маючы сілы адарвацца ад вогненных простакутнікаў на падлозе з надпісамі, літарамі, малюнкамі, пакуль не папаў у габінэт дырэктара.

Вясёлы містэр у клетчатым гарнітуры званіў па тэлефону, прыймаў радыё-дэпэшу і нешта дзіка выкрыкваў у трубку рупара. У позе каменнага абеліску Гары стаяў хвіліну, дзьве, тры, дзесяць,—дырэктар не зварачаў на яго ўвагі.

— Я жадаю працаваць,—сказаў Гары.

— К чорту,—кінуў дырэктар.

— Я адтуль, сам дз'ябал паслаў мяне да вас. Дайце працу.

Тоўсты містэр, накрычаўшыся ў асалоду, кінуў трубкі і, закінуўшы ногі на стол, узяў сыгару.

— Алё! Добра сказана. Што ты можаш?

— Усё...

— Добра. Ты будзеш куляцца па вуліцам з плякатамі. На тваім гарнітуры будзе напісана: „Я адзін з многіх паралітыкаў якія вылячыліся пілюлямі Трафта".

— Добра... Але я ня еў каля двух тыдняў... і... сапраўды, бедны абед Джона так падзейнічаў на экономны організм Гары, што ён пачаў адчуваць нудоту. Яго грудзі пачалі калаціцца ад дробнага кашалю, а на запалым твары загарэўся закатны румянец

— Гэта мяне ня цікавіць, за куляньне—2 доляры ў дзень. Вы не жанатыя?

— Не.

— Тым лепш. Гледзячы на вас, я думаю, што вы доўга ня будзеце куляцца, выплачваць пэнсію вашай жонцы—нашай фірме ня цікава. Падпішэцеся.

Гары ўзяўся за пяро.

—Але ў мяне ёсьць нарачоная, містэр, і яна чакае мяне,— нечакана заявіў Гары, разгублена гледзячы на дырэктара.

— Нам няма справы да вашых жыцьцёвых недарэчнасьцяй,—сказаў тоўсты містэр і зацягнуўся сыгарай.

Недзе там, у глыбіні іспакутаванай істоты Гары, занялася чалавечая мара і зачынілася, як вечка парожняй скрынкі.

Ён пакланіўся і бледны вышаў з Палацу Рэклям.

Джон чакаў яго пад даждžом.

— Ну, як?

Гары кіўнуў галавой.

— Не распытвай! Я губляю чалавечы воблік! Заўтра я буду машынай. І... мяне нудзіць...

— Захоўвай энэргію, сябра, і ня губляй веры. Ідзем, таварыш...

IV

Прыняўшы пад расьпіску блазьніцкае адзеньне з плякатамі на тых мясцох, дзе ім не належыць быць, Гары ў кампаніі такіх-жа крыкуноў накіраваўся ў цэнтр.

Сонца бязьлітасна паліла.

Пыл з-пад жорсткіх шын пападаў у сухі спалены рот.

За рэклямэрамі беглі хлапцы, кідалі ў іх камяньнямі, паважаныя містрыс прыпадніміліся ў ляндо, ларніруючы з усьмешкай блазнаў, а тлустыя містэры стрымана рагаталі, агартаючы палам бэнзіну аўто сьмешных дзівакоў.

Гары задыхаўся.

Яркія плямы з рэклямнай хуткасьцю то запальвал ся, то зьмяняліся бледным тварам Гары. Валасы, пакрытыя пылам, зьляпіліся ў потны скрутак, рукі і ногі дрыжалі як спружына.



Каля люстранага пад'езду тоўпіліся цыліндры, кэпі, капялюшы...

У канцы дня Джон дагнаў процэсію на Бондстрыт і, схапіўшы за рукаў знэрваванага Гары, пасадзіў яго на асфальт.

— Даволі! Паглядзі на сябе!.. Ты...

— Яшчэ дзьве вуліцы, толькі дзьве, добры Джон, і я змагу зьвярнуць табе кошт учарайшага абеду. Два доляры, разумееш, два доляры?!

Джон сьціснуў кулакі.

— Нягоднікі! Так катаваць людзей!..

Гары паглядзеў на яго з замутнелымі, нічога не розумеючымі вачыма і пабег даганяць таварышоў.

V

Гэта здарылася на пяты дзень службы Гары. Як ні ўгаварваў яго Джон кінуць працу і адпачнуць, Гары ўсё-ж пашоў на яе з раніцы. Калі непакой Нью-Ёрку пачаў патроху сьціхаць, а белыя, налітыя сьвятлом ліхтары разбухлі над бруднымі барамі, Джон заклапочаны адсутнасьцю Гары, накіраваўся да Палацу Рэклям.

Дом загараўся і патухаў, як заўжды. Як заўжды, снавалі людзі. Але чамусьці сягоньня іх было больш звычайнага. Калі Джон расьпіхаў зявак, дык пабачыў: у кампаніі рэклямістаў каля палацу ляжаў Гары. Сьмяротная бледнасьць разьлілася па твары выпадковага таварыша. Нос падоўжыўся. Сударагава закінутыя рукі не пакідалі сумненьня адносна правільнага сродку і выніку абагачэньня Гары. Халодны пот буйнымі кроплямі падаў з крутога, зморшчанага ілба...

Джон апусьціўся на калені і ўзяў руку паміраючага.






Гары у кампаніі такіх-жа штукароў накіраваўся ў цэнтр...

— Гары, я з табой! Ну, у чым справа? Ты стаміўся? Так?..

Гары ледзь прыкметна расплюшчыў цяжкія павекі, і па няўпэўненай ўсьмешцы сухіх, з цяжкасьцю адчыненых вуснаў Джон не пачуў, а хутчэй адгадаў тое, што хацеў, але ня змог сказаць Гары.

І зараз-жа ўпаў ніц і выхапіў халодную руку з пальцаў Джона.

Вакольныя зьнялі капялюшы.

Цішыню парушыў пан дырэктар.

— Вазьмеце прэч гэтага блазна ад палацу. Сваім выглядам ён псуе рэкляму.

І таму, што ніхто ня рушыўся з месца, нават не абярнуўся на словы містэра, дырэктар пакрыўджана выцягнуў уперад губу. Насьлядуючы гультаяватым жэстам дырэктара, Джон выцягнуў браўнінг і...

Клетчаты джэнтльмэн ускрыкнуў і ўпаў ніц на труп Гары.

Усе кінуліся ў бакі.

Нехта схапіў Джона за плечы, а калі сіні полісмэн наблізіўся з кайданамі, Джон сам працягнуў рукі і заклапочана сказаў:

— Гары не жадаў больш рэклямы—я выканаў яго просьбу.

— Што гэта? — нечакана прасунуўся нехта новы, які толькі што наблізіўся да месца здарэньня.

— Гэта? — Джон паказаў на няжывога дырэктара, — гэта, містэр, патэнтованы сродак зьнішчэньня буржуазных страшыдлаў, змагу вас упэўніць, што не рэкляма.




# На шляху да змаганьня

*Апавяданьне Марыі Кальтофэн.* **Малюнкі Загароўскага.**

Леты мела ўжо 19 год, калі яна пазнаёмілася з Джонам. Яна была хударлявай і бялявай, з валасамі, бліскучымі, як сьпелае збожжа. Яна належала да тых дзяўчат, з якіх заўсёды дзівяцца, як можа быць іх скура такой ружовай і гладкай, а валасы такімі сьветлымі ў копаці і чадзе ангельскага індустрыяльнага гораду, у атрутным паветры фабрычных гмахаў.

Леты абслугоўвала машыну ў прадзільні нітачнага трэсту Вільяма і К⁰. Джон працаваў там-жа ў мэханічнай майстэрні; яны пазнаёміліся, калі машына Леты патрабавала агляду ў часе работы.

Праўда, пакуль ён накручваў дзьве шрубы, яны змаглі абмяняцца толькі некалькімі словамі, бо нітка зараз-жа зноў пабегла проста і ў парадку і Джон павінен быў ісьці далей, але па сканчэньні работы ён ужо чакаў на яе ля фабрычнай брамы.

Яны пайшлі разам дадому; высьветлілася, што яны жывуць на адной і тэй-жа вуліцы, толькі праз некалькі дамоў адзін ад аднаго.

Джон паступіў на гэта прадпрыемства толькі за некалькі дзён перад гэтым.

З таго часу яны сустракаліся ўсё часьцей і часьцей, нярэдка вярталіся ўвечары разам дадом, іншы раз Джон прыходзіў у маленькі домік, дзе жыла Леты разам з сваёй маткай.

Матка сустракала яго лагодна, нібы ён быў яе ўласны сын. Яна называла яго „my boy“ і ён павінен быў піць гарбату з стракатай філіжанкі памёршага бацькі.

Калі яна даставала філіжанку з шафы, яна заўсёды ўспамінала нябожчыка: „Так, так, калі бацька сватаўся да мяне і я яшчэ была маладой і прыгожай, як сёньня Леты...“

Потым яна сядзела ў скураным крэсьле ля стала і расказвала пра сваё жыцьцё. Яно было шэрым і мізэрным. Бацька яшчэ ў маладых гадох, пры выбуху катла, страціў сваё жыцьцё, і яна павінна была сама прахарчаваць і выхаваць трое дзяцей. Двое з іх памёрла якраз тады, калі яны толькі пачалі самі зарабляць сабе грошы. Толькі Леты засталася ёй.

— Зараз усяму будзе канец,—мела яна звычай гаварыць, пабожна складаючы далоні,—мне ня было шмат дабра ў жыцьці, але каб я ведала, што вам будзе лепей, тады-б я спакойна памёрла.

Маладыя сьмяяліся ўпэўнена. Яны былі маладыя і мелі шмат надзей.

Увосень матка раптоўна захварэла і памёрла. Неўзабаве пасьля гэтага Леты і Джон пабраліся. Праз тры месяцы нарадзілася дзіця. Джон настаяў на тым, каб Леты адмовілася ад работы на фабрыцы. Як мэханік, ён дастаткова зарабляў, каб прахарчаваць жонку і дзіця. Леты цалкам захапілася доглядам малога. Усе яе думкі і клопаты былі накіраваны толькі на дзіця, для Джона засталося мала часу.

Сам ён ня ведаў, што трэба рабіць з малым, заўсёды крыклівым карапузам.

Леты была цалкам прымацавана да дому, бо яна нікога ня мела, каму магла-б даручыць сваё дзіця. Джон з варкатаньнем падпарадкаваўся цяжкай неабходнасьці, але неўзабаве паміж імі пачаліся першыя сур'ёзныя непаразуменьні.

Толькі, калі малы пачаў бегаць і гаварыць, толькі тады бацька зацікавіўся ім. Гэта было ціхае, разумнае дзіця, і Леты адважвалася ўжо браць яго з сабою.

Усё ішло добра, аж пакуль Леты не пачала чакаць на другое дзіця. Джон з жахам думаў аб тым, як зноў начнецца бясконцы роў бэбэ і бясконцае тупаньне вакол печкі і тыя клопаты, якія зноў зьвяжуць яго Леты — яшчэ больш, чымся ў першы раз, бо яшчэ і старэйшы малы, з свайго боку, патрабаваў дапамогі маткі.

Ён ведаў, што ёсьць сродкі, дзякуючы якім можна знішчыць цяжарнасьць, але Леты баялася зьвярнуцца за дапамогаю да „мудрых жанчын“, якія жылі недзе ў брудных завулках старога гораду і аруд валі бруднымі інструмантамі ў сваім таямнічым гешэфце, да якога прымушаны былі зварочвацца пролетарскія жанчыны. Леты не адважвалася кінуць сваё жыцьцё на гульню—што будзе з яе дзіцем, калі яна памрэ? Трэба было цяпер выгадаваць іх да сталых год... Джон-жа меў работу...



Позьнім летам зьявілася дзіця на сьвет. Восеньню выбухнуў гаспадарчы крызіс. У першы раз Джон застаўся без работы.

Бядота моцна трымала ў сваіх кіпцюр х рабочы квартал. Джон пагражаў лёсу і ўсю сваю злосьць перанёс на Леты і дзяцей, асабліва на меншага. Апошні крычэў больш заўзята. чымся ў свой час крычаў яго старэйшы брат. Яны ўсе разам жылі ў маленькай кухні, адзіным пакоі, які яшчэ маглі апальваць.

Настрой Джона з дня ў дзень рабіўся ўсё горшым: ён усё меней і меней лічыў за патрэбнае захоўваць сваю злосьць. Ён аднойчы, калі пайшоў атрымліваць тыднёвую дапамогу, зьвярнуўся позна ўначы.

Леты ахапіў жах, калі яна ўбачыла яго: ён хістаўся, агідны смурод гарэлкі ўдарыў ёй чорнай вужакай у твар.

— Адкуль ты ідзеш?—спалохана закрычэла Леты.

Ён глядзеў на яе пустымі вачыма і нічога ёй не адказваў. Жахлівая думка ўзьнімалася ў ёй.

— Джон—дзе твае грошы?

Ён, тупа сьмяючыся, зваліўся на крэсла. Яна ліхаманкага абшукала яго кішэні—нічога. У шалёным сполаху яна схапіла яго за плечы і трэсла.

— Джон, дзе грошы?

— Пусьці мяне! замармытаў ён і, калі вырваўся, пашоў у спальню, і ўпаў на ложак.

Ад таго часу ён пачаў піць... Папіканьні, просьбы—нічога не дапамагала...

Калі Леты даведалася, што трэст Вільляма і К° набірае работніц, яна заявілася і атрымала работу. Добрая суседка даглядала праз увесь дзень за яе дзецьмі. На Джона яна не магла іх пакінуць. Як толькі ў яго рукі траплялі грошы, ён іх прапіваў. Ня меў ён ані шэлегу,—пазычаў; не пазычалі—цэлымі днямі наўсьцяж ляжаў ён у ложку, не гаварыў і ня дбаў ні аб чым. Леты спадзявалася, што ўвесну ён атрымае работу і ўсё зьменіцца—будзе добра...

Але-ж надзеі разьбіліся: Джон не знайшоў работы. Крызіс ня быў выжыты, нават гаварылі аб тым, што ён яшчэ больш абвострыцца.

Былі дастаўлены новыя машыны, якія патрабавалі менш абслугоўваньня, але выраблялі больш тавараў. Акцыянэры бядавалі аб мізэрным збыце тавараў—але, ня гледзячы на гэта, тэмп работы павялічваўся, ад чалавека вымагаліся немагчымыя запатрабаваньні. Рабочыя напружвалі ўсе свае сілы, каб толькі ня здрэйфіць. Ля варот заўсёды ёсьць дастаткова вольных рук, якія прагнуць работы—работы, хоць за якую аплату.

Джон не знаходзіў ніякае работы. Аднойчы ён згінуў, і ніхто ня ведаў куды. Леты зьвярнулася да паліцыі—нічога.

Аднойчы яна атрымала паведамленьне, што ён паступіў за качагара на адзін амэрыканскі карабель.

Ён, мабыць, спадзяваўся, што там, за вялікім морам, будзе больш шчасьця. Леты-ж разважала, што ён там загіне, падохне дзе-небудзь у закінутай карчомцы. І там за морам было вольных рук больш як трэба.

Яна адмовілася ад дому, наняла танны пакой паблізу фабрыкі. Бацькі Джона, сумленныя пролетары, былі абураны ўчынкам свайго сына. Бацька сам меў работу, якая аплачвалася танна, але за невялікую штотыднёвую плату Леты магла пакідаць сваіх дзяцей на ўвесь дзень пад нагляданьнем бабулі.

Тэмп работы ўсё больш узрастаў, акцыянэры, як і раней, бядавалі. Раптам яны абвясьцілі, што або будуць прымушаны зьнізіць аплату, або павінны будуць выкінуць яшчэ больш пролетараў на брук.

Зьнізіць аплату? Аплату, якая і бяз гэтага была нізкай?

На вытворчасьці бунтаваліся эксплёатаваныя людзі. Акцыянэры не паддаваліся. Рабочыя трымаліся моцна—мы не дамо зьменшыць галодную аплату.

Была абвешчана забастоўка.

На вялікім пляцы перад заводам хвалявалася маса. Маладая работніца ўскочыла на цокаль.

— Рабочыя! Работніцы! Мы павінны змагацца—за нас і нашых дзяцей!..

Гэта была Леты, індыфэрэнтная работніца, матка, якая змагалася за сваіх дзяцей, і ў першы раз, кіруючыся пэўным інстынктам, знайшла свой шлях, шлях да сваёй клясы...

Пераклад
А. Б.



# З А В Е Я

Завея дарогу зусім замяла,
І мы наліваліся злосьцю.
Ну, як тут прабіцца да нас, да сяла
З газэтамі лістаносцу?!
Здаецца, ў завеі круціўся сусьвет—
Сумёты расьлі да аселіц.
І мы анямелі бяз вестак, газэт,
Бяз родных газэт анямелі.
Мяцеліцай выгнаны каля ракі
Спалоханы бегаў заяц...
Пусьцілі чуткі ў сяле кулакі:
— Вайна пачалася ліхая...
— Французы, казалі, прыйдуць да нас.
— Саветы вашыя ўгробяць...
— А вы, шчэ жадаеце йсьці у колгас?
— Няхай яго возьме хвароба!..
Кіпела, бурліла бядняцкая злосьць,
Нянавісьць расла не на жарты...
Ды ўчора ў чытальню усё сяло
Прыбегла нібы на пажар той...
Хай б'ецца мяцеліца зараз ў палёх
І рве сьнегавыя знарады,—
Прывезьлі учора у наша сяло
Цудоўную штуку—радыё.
І хай памірае са злосьці кулак,
Як выгнаны сьцюжаю заяц,—
Учора ўвайшла палова сяла
Ў колгас „Першае Мая".

Зьмітро Віталін

ГПБ Ср. Аз.

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Р. Мурашка.** Сын (роман). БДВ, Менск, 1929 г. 536 стар. Цана 3 руб. 50 кап.

Адным з буйнейшых твораў нашай літарат рнай сучаснасьці зьяўляецца роман Р. Мурашкі „Сын". Гэтым романам аўтар спрабуе даць бой нацыянал-дэмократычным традыцыям, нацыянал-дэмократычным ацэнкам рэволюцыі 1905 г. Ён спрабуе паказаць сапраўднага кіраўніка рэволюцыі—социял-дэмократычную партыю (бальшавікоў).

Цёмны вясковы хлапец трапляе ў горад, гарадзкую майстэрню, робіцца клясава сьвядомым рабочым, уваходзіць у социял-дэмократычную партыю і ў яе шэрагах змагаецца ў часе рэволюцыі 1905 г.

На фоне падрыхтоўкі да рэволюцыі і самай рэволюцыі аўтар разгортвае шырокае палатно клясавай барацьбы на Беларусі. Жыцьцё вёскі, жыцьцё панскіх маёнткаў, жыцьцё рабочых у горадзе, здрадніцкую ролю Беларускай Социялістычнай Грамады ў рэволюцыі 1905 г. ілюстроўвае аўтар.

Роман канчаецца разгромам рэволюцыйнага руху. У эпілозе аўтар паказвае дзеючых асоб ва ўмовах рэакцыі. Прайшло два гады пасьля разгрому і зноў пачынаюць




зьбірацца застаўшыяся ў жывых барацьбіты, каб з новымі сіламі выступіць на змаганьне з царскім самаўладзтвам.

Гэты роман зьяўляецца першым буйным творам у беларускай літаратуры аб эпосе 1905 г.

Чытач міжвольна захопіцца героічным змаганьнем пролетарыяту разам з асноўнымі масамі сялянства за лепшае жыцьцё.

**„Спадарожнік па Менску і I усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці".** Выд. Менгарсавету і рэдакцыі газэты „Рабочий". Менск, 1930 г. 96+112+LXIV стар. Цана 96 кап.

Можна толькі вітаць пачын рэдакцыі „Рабочага". Выданьне спадарожніка па Менску рэч ужо даўно неабходная. Таварышы з раёнаў, шматлікія экскурсіі дагэтуль ня мелі даведачніка, які-б дапамог ім орыентавацца ў нашай сталіцы.

Гэта кніжка зьмяшчае спадарожнік па выстаўцы, які апрацаваны П. Сяргейчыкам і даведачнік па г. Менску. Ня гледзячы на некаторыя недахопы (няма ні слова аб павільёне Мопр'у на выстаўцы, нічога аб мастацкіх і літаратурных згрупаваньнях ды інш.) гэта кніжка прынясе пэўную карысьць.

**Андрэй Александровіч.** Як цацкі дома зрабіць самому. БДВ, Менск, 1930 г. 16 стар. Цана 42 кап.

**Яго-ж.** Горад раніцай. БДВ, Менск, 1930 г. 16 стар. Цана 42 кап.

Пераважная частка нашай дзіцячай літаратуры перакладаецца з іншых моў. Лік кніжак беларускіх аўтараў зусім нязначны. Тым прыемней аднатаваць выхад кніжак поэта А. Александровіча, якія напісаны спэцыяльна для дзяцей дашкольнага ўзросту.

У першай кніжцы (малюнкі Ізмайлава і Корфа) аўтар расказвае, як з каштаноў, сучкоў, сярнічак, дроту, шкуматкоў і арэхаў пры дапамозе клею і нажа можна зрабіць цікавыя цацкі.

Малюнкі параўнальна ўдала ілюструюць тэкст.

У другой кніжачцы (малюнкі Б. Малкіна) паказваецца жыцьцё гораду раніцой. Рамізьнік, вартаўнік, дворнік, газэтчык, папіросьнік, кітаянка з цацкамі, манцёры, міліцыянэры, рабочыя на фабрыкі,—вось аб кім піша поэта. Малюнкі ўдала ілюструюць тэкст.

Трэба толькі пажадаць, каб лік дзіцячых кніжак, напісанных беларускімі поэтамі і пісьменьнікамі, павялічваўся хутчэй.

**Лесьнік.** Усе сабакі. Сэрыя. „Малады прыродазнаўца". БДВ, Менск, 1930 г. 62 стар. Цана 25 кап.

Лес, поле, рэчка, балота, вясна, лета, восень, зіма, каханьне, сьмерць, барацьба за існаваньне,—вось асноўныя тэмы апавяданьняў Лесьніка аб птушках і жывёлах.




Кніжка „Усе сабакі"—гэта зборнік кароценькіх нарысаў і накідаў з натуры з жыцьця сабак. У аўтары адчуваецца добры знаўца, які шмат нагледаў і добра зжыўся з жывёламі.

З вялікай любасьцю да жывёл ён з непадробнай шчырасьцю расказвае аб Томі брахуне, Дзіне, сэттэр-гордоне Краке... Аўтар умее сьвежа, жыва і ўмела абмаляваць пасобныя дэталі штодзеннага жыцьця сабак. У кніжцы маецца 25 малюнкаў, якія паказваюць розныя віды сабак.

Кніжка з цікавасьцю будзе прачытана школьнікам. Яна раскажа яму, што апрача вясковых сабак і дварнякоў ёсьць яшчэ шмат іншых відаў сябак, якія зьяўляюцца найлепшымі прыяцелямі чалавека.

**Х. Шынклер.** Стрэлачнік Мігай (апавяданьне). БДВ, Менск, 1930 г. 62 стар. Цана 35 кап.

Малады чыгуначнік Х. Шынклер усьлед за сваёй першай кніжкай „Іч э" („Чырв. Беларусь" № 7) выдаў зборнік апавяданьняў з жыцьця чыгуначнікаў.

Жыцьцё і праца аднаго з буйных атрадаў пролетарыяту Беларусі—чыгуначнікаў вельмі слаба адбіта ў нашай мастацкай літаратуры, і таму так прыемна аднатаваць выхад кніжкі Шынклера.




У невялічкіх апавяданьнях аўтар разгортвае перад чытачом асобныя моманты жыцьця на чыгунцы. Тут і рамонтны рабочы Ладунька, якога захапіў „пас жыцьця", тут і ўзварушаныя жыхары станцыі Рудня, у тэлеграфісткі якой прапала шпулька тэлеграм, праходзіць перад чытачом і машыніст Якім Чумакоў, які выратаваў цягнік ад бандытаў, паказаны агент ОРТЧК. Перад чытачом праходзіць цэлая чарада працаўнікоў чыгункі, якія ўдала акрэсьлены аўтарам.

Кніжку можна толькі раіць.

**П. Уралаў.** На заводзе.

**А. Волжскі.** У разводзе. 1930 г. 16 ст. Цана 5 кап.

Шпаркі рост пісьменнасьці ў краіне, значнае павялічэньне ліку асоб, якія ліквідавалі сваю няпісьменнасьць, вымагае выданьне спэцыяльных кніжак, якія-б былі напісаны простай і зразумелай мовай і выдрукаваны буйным шрыфтам.

Дзьве перакладныя кніжачкі Уралава і Волжскага зьяўляюцца першай спробай БДВ прыйсьці на дапамогу малапісьменным.

У абедзьвюх кніжках расказваецца аб сьвяткаваньні Першага Мая да рэволюцыі ў горадзе на заводзе (Уралаў) і на вёсцы (Волжскі). Кніжачкі выданы акуратна і з цікавасьцю будуць прачытаны малапісьменнымі.

# СТАРТ НА СССР




**ФІНІШ СТАРТУ** (суд над „прампартыяй").

**Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.**
**Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Р. Мурашка. Сын (роман).** БДВ, Менск, 1929 г. 536 стар. Цана 3 руб. 50 кап.

Адным з буйнейшых твораў нашай літаратурнай сучаснасьці зьяўляецца роман Р. Мурашкі „Сын". Гэтым романам аўтар спрабуе даць бой нацыянал-дэмократычным традыцыям, нацыянал-дэмократычным ацэнкам рэволюцыі 1905 г. Ён спрабуе паказаць сапраўднага кіраўніка рэволюцыі—соцыял-дэмократычную партыю (бальшавікоў).

Цёмны вясковы хлапец трапляе ў горад, гарадзкую майстэрню, робіцца клясава сьвядомым рабочым, уваходзіць у соцыял-дэмократычную партыю і ў яе шэрагах змагаецца ў часе рэволюцыі 1905 г.

На фоне падрыхтоўкі да рэволюцыі і самай рэволюцыі аўтар разгортвае шырокае палатно клясавай барацьбы на Беларусі. Жыцьцё вёскі, жыцьцё панскіх маёнткаў, жыцьцё рабочых у горадзе, здрадніцкую ролю Беларускай Соцыялістычнай Грамады ў рэволюцыі 1905 г. ілюструе аўтар.

Роман канчаецца разгромам рэволюцыйнага руху. У эпілозе аўтар паказвае дзеючых асоб ва ўмовах рэакцыі. Прайшло два гады пасьля разгрому і зноў пачынаюць




зьбірацца застаўшыяся ў жывых барацьбіты, каб з новымі сіламі выступіць на змаганьне з царскім самаўладзтвам.

Гэты роман зьяўляецца першым буйным творам у беларускай літаратуры аб эпосе 1905 г.

Чытач міжвольна захопіцца героічным змаганьнем пролетарыяту разам з асноўнымі масамі сялянства за лепшае жыцьцё.

**„Спадарожнік па Менску і I усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці".** Выд. Менгарсавету і рэдакцыі газэты „Рабочий". Менск, 1930 г. 96+112+LXIV стар. Цана 96 кап.

Можна толькі вітаць пачын рэдакцыі „Рабочага". Выданьне спадарожніка па Менску рэч ужо даўно неабходная. Таварышы з раёнаў, шматлікія экскурсіі дагэтуль ня мелі даведачніка, які-б дапамог ім орыентавацца ў нашай сталіцы.

Гэта кніжка зьмяшчае спадарожнік па выстаўцы, які апрацаваны П. Сяргейчыкам і даведачнік па г. Менску. Ня гледзячы на некаторыя недахопы (няма ні слова аб павільёне Мопр'у на выстаўцы, нічога аб мастацкіх і літаратурных згрупаваньнях ды інш.) гэта кніжка прынясе пэўную карысьць.

**Андрэй Александровіч.** Як цацкі дома зрабіць самому. БДВ, Менск, 1930 г. 16 стар. Цана 42 кап.

**Яго-ж.** Горад раніцай. БДВ, Менск, 1930 г. 16 стар. Цана 42 кап.

Пераважная частка нашай дзіцячай літаратуры перакладаецца з іншых моў. Лік кніжак беларускіх аўтараў зусім нязначны. Тым прыемней аднатаваць выхад кніжак поэта А. Александровіча, якія напісаны спэцыяльна для дзяцей дашкольнага ўзросту.

У першай кніжцы (малюнкі Ізмайлава і Корфа) аўтар расказвае, як з каштаноў, сучкоў, сярнічак, дроту, шкуматкоў і арэхаў пры дапамозе клею і нажа можна зрабіць цікавыя цацкі.

Малюнкі параўнальна ўдала ілюструюць тэкст.

У другой кніжачцы (малюнкі Б. Малкіна) паказваецца жыцьцё гораду раніцой. Рамізьнік, вартаўнік, дворнік, газэтчык, папіросьнік, кітаянка з цацкамі, манцёры, міліцыянэры, рабочыя на фабрыкі,—вось аб кім піша поэта. Малюнкі ўдала ілюструюць тэкст.

Трэба толькі пажадаць, каб лік дзіцячых кніжак, напісанных беларускімі поэтамі і пісьменьнікамі, павялічваўся хутчэй.

**Лесьнік.** Усе сабакі. Сэрыя. „Малады прыродазнаўца". БДВ, Менск, 1930 г. 62 стар. Цана 25 кап.

Лес, поле, рэчка, балота, вясна, лета, восень, зіма, каханьне, сьмерць, барацьба за існаваньне,—вось асноўныя тэмы апавяданьняў Лесьніка аб птушках і жывёлах.




Кніжка „Усе сабакі"—гэта зборнік кароценькіх нарысаў і накідаў з натуры з жыцьця сабак. У аўтары адчуваецца добры знаўца, які шмат наглядаў і добра зжыўся з жывёламі.

З вялікай любасьцю да жывёл ён з непадробнай шчырасьцю расказвае аб Томі брахуне, Дзіне, сэттэр-гордоне Краке... Аўтар умее сьвежа, жыва і ўмела абмаляваць паасобныя дэталі штодзеннага жыцьця сабак. У кніжцы маецца 25 малюнкаў, якія паказваюць розныя віды сабак.

Кніжка з цікавасьцю будзе прачытана школьнікам. Яна раскажа яму, што апрача вясковых сабак і дварнякоў ёсьць яшчэ шмат іншых відаў сабак, якія зьяўляюцца найлепшымі прыяцелямі чалавека.

**Х. Шынклер.** Стрэлачнік Мігай (апавяданьне). БДВ, Менск, 1930 г. 62 стар. Цана 35 кап.

Малады ч.чгуначнік Х. Шынклер усьлед за сваёй першай кніжкай „Ічэ" („Чырв. Беларусь" № 7) выдаў зборнік апавяданьняў з жыцьця чыгуначнікаў.

Жыцьцё і праца аднаго з буйных атрадаў пролетарыяту Беларусі — чыгуначнікаў вельмі слаба адбіта ў нашай мастацкай літаратуры, і таму так прыемна аднатаваць выхад кніжкі Шынклера.




У невялічкіх апавяданьнях аўтар разгортвае перад чытачом асобныя моманты жыцьця на чыгунцы. Тут і рамонтны рабочы Ладуцька, якога захапіў „пас жыцьця", тут і ўзварушаныя жыхары станцыі Рудня, у тэлеграфістага якой прапала шпулька тэлеграм, праходзіць перад чытачом і машыністы Якім Чумакоў, які выратаваў цягнік ад бандытаў, паказаны агент ОРТЧК. Перад чытачом праходзіць цэлая чарада працаўнікоў чыгункі, якія ўдала акрэсьлены аўтарам.

Кніжку можна толькі раіць.

**П. Уралаў.** На заводзе.

**А. Волжскі.** У разводзе. 1930 г. 16 ст. Цана 5 кап.

Шпаркі рост пісьменнасьці ў краіне, значнае павялічэньне ліку асоб, якія ліквідавалі сваю няпісьменнасьць, вымагае выданьне спэцыяльных кніжак, якія-б былі напісаны простай і зразумелай мовай і выдрукаваны буйным шрыфтам.

Дзьве перакладныя кніжачкі Уралава і Волжскага зьяўляюцца першай спробай БДВ прыйсьці на дапамогу малапісьменным.

У абедзьвюх кніжках расказваецца аб сьвяткаваньні Першага Мая да рэволюцыі ў горадзе на заводзе (Уралаў) і на вёсцы (Волжскі). Кніжачкі выданы акуратна і з цікавасьцю будуць прачытаны малапісьменнымі.



# СТАРТ НА СССР



**ФІНІШ СТАРТУ** (суд над „прампартыяй").

ГПБ Ср. Аз.

**Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.**

**Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

„САЮЗКІНО“ ТРЭСТБЕЛДЗЯРЖКІНО

# ЧАРГОВЫЯ ВЫПУСКІ

| МАСТАЦКІЯ ФІЛЬМЫ | ПОЛІТАСЬВЕТНЫЯ ФІЛЬМЫ |
|---|---|
| **РУБІКОН**<br>Сцэнары А. МЕНСКАГА<br>Рэжысэр В. ВАЙНШТОК<br>Опэратар Арк. КАЛЬЦАТЫ | **З НЕТРАЎ БАЛОТ**<br>(ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ.<br>Сцэнары Д. ТАЛМАЧОВА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Б. МІТЛІН |
| **САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЬЦЁ**<br>Сцэнары Л. ЗАЛКІНД<br>Рэжысэры А. ГАЎРОНСКІ і О. УЛІЦКАЯ<br>Опэратары Д. ШЛЮГЛЕЙТ і СОКАЛАЎ | **БАБРУЙСКІ КАМБІНАТ**<br>Рэжысэр В. САЛАМОНІК<br>Опэратар Б. РАБАЎ |
| **СОНЕЧНЫ ПАХОД**<br>Сцэнары А. ВОЛЬНАГА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Д. ШЛЮГЛЕЙТ | **УЛАДА САВЕТАЎ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСКІ<br>В. САЛАМОНІК<br>Опэратары С. ІВАНОЎ<br>С. ФАЙМАН |
| **КУЛЬГАВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА**<br>Сцэнары А. КРОНА<br>Рэжысэр Ю. ВІНАКУРАЎ<br>Опэратар С. ФАЙМАН | **БУКСЫ ПЫЛАЮЦЬ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСКІ<br>Опэратар С. ФАЙМАН |
| **СУД ПАВІНЕН ПРАЦЯГВАЦЦА**<br>Сцэнары А. ПАЎЛОЎСКАГА<br>Рэжысэр Е. ДЗІГАН<br>Опэратар Н. НАУМАЎ | **ТЭЛЕФОН**<br>Рэж. А ФАЙНЦЫМЕР<br>Опэратар А. РАГОЎСКІ |


# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ Ў „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ

252



АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ і ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі" на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Позмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь" будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

**Умовы падпіскі:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**Падпіска прымаецца:** Аддзелам падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79; усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Тэлефон бюро падпіскі 17-12

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 685. Галоўлітбел № 1031.

